


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

TV плюс

29 снежня 2000 года
№ 52 (297)
Цана ў розніцу 102 рублі

## Навіны рэгіёна

### Адкрываецца заводская сталоўка

СМАРГОНЬ. Са студзеня на заводзе аптычнага станкабудавання пасля шматгадовага перапынку адновіць работу сталовая. Гэта стала магчымым дзякуючы таму, што завод спрацаваў з прыбыткам: за 10 месяцаў ён склаў 266,9 мільёна рублёў.

На заводзе няма затрымак з зарплатай, рабочыя забяспечаныя спецвопраткай, дзейнічае пральня. Асновай будучай прадукцыі стануць агрэгаты для чысткі нафтавых свідравін, аптычныя станкі і шасцярончатыя помпы.

**Павел МАКЛЮК.**

### Справа «Спадарожніка» доўжыцца

МАЛАДЗЕЧНА. Большасць з былых работнікаў радыёзавода "Спадарожнік", што падавалі ў суд за незаконнае звальненне, падалі заявы на індэксацыю кампенсацыі.

Грошы – больш за 5 мільёнаў рублёў на ўсіх – яны атрымалі ў пачатку снежня, калі на заводзе змяніўся дырэктар.

У сувязі з тым, што тыя рублі абясцэніліся, пацярпелыя падалі новую заяву ў суд, каб спагнаць індэксацыю.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Не шкадуйце «старыя» грошы

МАЛАДЗЕЧНА. Яшчэ тры дні будуць дзейнічаць на тэрыторыі Беларусі "старыя" беларускія рублі (узору 1992–1999 гадоў выпуску). З 1 студзеня па 31 снежня 20001 года іх можна будзе абмяняць у камерцыйных банках, а ва ўстановах Нацбанка Рэспублікі Беларусь – з 1 студзеня 2001 года па 31 снежня 2003 года. Таму самы час разлічвацца за пакупкі купюрамі ад 1 тысячы да 5 мільёнаў, каб не марнаваць свой час на абмен.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Першы лёд на вадасховішчы

ВІЛЕЙКА. На Касуцкай затоцы (Вілейскае вадасховішча) з'явіўся першы лёд. Ён яшчэ гнецца і трашчыць пад цяжарам рыбакоў, але, нягледзячы на гэта, апошнія ўжо палююць на плотку і падлешчыка. Выратавальнікі занепакоеныя, каб ім, у сваю чаргу, не давялося вылоўліваць рыбакоў, ці, як іх яшчэ называюць, "смяротнікаў".

**Ігар КІЦІКАЎ.**

### Колькі каштуе школьная «пяцёрка»

МАЛАДЗЕЧНА. У канцэртнай зале сярэдняй агульнаадукацыйнай школы мастацтваў (САШМ) прайшоў аўкцыён, дзе выстаўляліся адзнакі "5" па 13 асноўных дысцыплінах.

Танней за іншыя былі "пяцёркі" па фізкультуры і інфарматыцы – 200 і 250 рублёў адпаведна. А найбольшы попыт стаўся на "пяцёркі" па матэматыцы – 1600 рублёў і хіміі – 1100 рублёў.

Грошы ад аўкцыёну пайшлі на фінансаванне выпуску школьнай газеты.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Астраўчане зменяць нумары?

АСТРАВЕЦ. У наступным годзе мясцовы вузел электрасувязі плануе ўвесці ў эксплуатацыю валаконна–аптычную лінію. Акрамя ўдасканалення сувязі, гэтае "ноу–хау" астраўчане адчуюць яшчэ і на тым, што будуць зменены тэлефонныя нумары абанентаў.

У гутарцы з карэспандэнтам "РГ" начальнік вузла электрасувязі **Міхаіл Хіневіч** зазначыў, што ажыццявіць праект магчыма будзе пры ўмове належнага фінансавання.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### У Літву напалову танней

АСТРАВЕЦ–ВІЛЬНЮС. Літоўскі ўрад прыняў рашэнне знізіць кошт турыстычных віз з 20 долараў ЗША да 10.

Паглядзець на вежу Гедыміна, прагуляцца па Старым горадзе сталіцы Літвы ў наступным годзе можна будзе напалову танней, чым сёлета.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Надвор'е на выхадныя

**Субота, 30 снежня**

**Мінск**
1 – 3°С (уначы)
3 – 5°С (удзень)



**Вільня**
2°С (уначы)
4°С (удзень)



**Нядзеля, 31 снежня**

**Мінск**
1 – 3°С (уначы)
3 – 5°С (удзень)



**Вільня**
3°С (уначы)
5°С (удзень)



# Рушым у новае тысячагоддзе!

Рэдакцыя «РГ» напярэдадні Новага Года абвясціла конкурс на лепшых людзей і падзеі года, стагоддзя і тысячагоддзя. Сёння падводзім некаторыя вынікі.

Віляйчанін **Дзяніс Міцкевіч** чалавекам стагоддзя лічыць **Юрыя Нікуліна**, падзеямі года і стагоддзя – закрыццё Чарнобыльскай АЭС і распад СССР.

**Аляксандр Давідовіч** з Маладзечна свае адказы аргументаваў на асобным аркушы. Яны носяць выражаны нацыянальны характар, з чым нельга не пагадзіцца: мы жывем на гэтай зямлі, таму ўсе сусветныя падзеі прапускаем праз сябе, сваё жыццё. Падзеяй стагоддзя ён лічыць абвяшчэнне БНР (першая спроба стаць незалежнымі), адпаведна, чалавек стагоддзя – **Станіслаў Шушкевіч**, бо падчас яго старшынства ў Вярхоўным Савеце залунаў над Беларуссю сапраўдны сцяг, а людзі, нарэшце, пабачылі свой герб. Падзея тысячагоддзя – пачатак кнігадрукавання, а чалавек стагоддзя – **Францыск Скарына**.

**Надзея Матвеева** з Валожына працягвае тэму папярэдняга аўтара і лічыць падзеяй тысячагоддзя ў рэгіёне пачатак дзейнасці ў 1570 годзе вядомай на ўвесь свет Лоскай друкарні. Чалавекам стагоддзя яна называе равесніцу стагоддзя захавальніцу беларускай песеннай спадчыны з Валожына **Ганну Рубацкую** – сёлета ёй споўнілася б роўна 100 год. І чалавекам стагоддзя яна лічыць славутага асветніка Сымона Буднага, які з 1573 года жыў у вёсцы Лоск.

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Цудоўны снежаньскі вечар на вуліцы Прытыцкага ў Маладзечне. На жаль, і на гэты раз сіноптыкі абяцаюць пацяпленне і дождж у Навагоднюю ноч.**

## Чым год запомніўся?

**По традыцыі ў апошнім нумары адыходзячага года нагадваем чытачам пра некаторыя сёлетнія газетныя публікацыі. На гэты раз мы вырашылі расставіць іх па своеасаблівых намінацыях.**

■ УСТАНОВА ГОДА

### Выязны ЗАГС у палітэхнікуме

МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак у будынку палітэхнікума без усялякай чаргі можна было зарэгістраваць шлюб, немаўлятка. Прычым, бясплатна. Выязны ЗАГС працаваў па вялікіх перапынках паміж лекцыямі амаль цэлы дзень (14 лютага).

**"РГ", №7, 18 лютага.**

■ ПЕРАМОГА ГОДА

### Маладзечна зноў у вышэйшай лізе

**Маладзечна – Нёман (Масты) 3:1**

Хвілін праз 15 па заканчэнні матча тэлефонны званок у федэрацыю футбола прымусіў пераможна ўскінуць рукі: "Лунінец" ачкі страціў.

ФК "Маладзечна" датэрмінова перамог у першай лізе.

**"РГ", №43, 27 кастрычніка.**

■ АВАРЫЯ ГОДА

### Наеліся лімонаў

МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую пятніцу ад раніцы горад напоўніўся лімонным пахам: напярэдадні ля чыгуначнага пераезда паблізу хлебазавода перакулілася фура з лімонамі.

Лімонамі былі запоўненыя і чыгуначныя пуці, і канавы, і праезная частка. Таму, акрамя міліцыі, сабралася цэлая акруга добраахвотных памочнікаў. Міліцыянеры асабліва не заміналі, таму кожны жадаючы мог пакет-другі лімонаў занесці дадому.

Ганялі толькі асабліва нахабных, якія прынеслі вялізныя спартыўныя сумкі ці нават прыгналі асабісты аўтатранспарт. Нейкая бабулька папрасілася, каб ёй дапамаглі, – шчодрая рука насыпала цытрусавыя рыдлёўкай.

**"РГ", №20, 19 мая.**

■ ПАДАРУНАК ГОДА

### Боты як падарунак для бабулі Ганны

МАЛАДЗЕЧНА. У мясцовым аддзяленні Беларускага Дыябетычнага Саюза пенсіянерцы **Ганне Пятровай** выдалі новыя гумовыя боты. Прыгожыя, з надпісамі на англійскай мове. Якасць добрая, двайная гума, а калі крыху падпампаваць паветра, то мароз (нават у 30–40 градусаў) не страшны.

На жаль, маленькая напруга з памерамі выйшла: не ўлічыў нехта, што ў бабкі Ганны толькі 36. Хаця пры дэталёвым вывучэнні "гуманітаркі" аказалася, што даўжыня нагі павінна быць якраз 36 сантыметраў. Ды і важаць боцікі зусім "нічога" – 1,6 кілаграма кожны.

**"РГ", №8, 25 лютага.**

■ ПРАДКАЗАННЕ ГОДА

# Прагноз, лепшы за нацбанкаўскі

**19 мая мы змясцілі фотаапытанне: калі курс долара пераскочыць мяжу ў 1 тысячу рублёў і колькі ён будзе каштаваць у канцы года?**

Сярод 5 удзельнікаў перамагла маладзечанка Лідзія Краснова, якая "па сумяшчальніцтве" распаўсюджвае "Рэгіянальную газету". У момант апытання курс быў на мяжы 970 рублёў. Наша пераможца прадказала, што "летам долар "завісне" і тысячу ён будзе каштаваць недзе ў жніўні–верасні".

**– Адкуль такая дакладнасць?**

– Інтуіцыя. Вырашыла так, калі размаўляла з самымі разумнымі людзьмі: са сваімі дзедам і дзецьмі, ну, і ящчэ назірала за курсам.

**– Як вы пачалі супрацоўнічаць з "РГ"?**

– Чысты выпадак. 2 гады таму я падпрацоўвала продажам латарэі. Са мной у адным офісе прадавалі "РГ". Цяпер, да ўсяго, стала амаль штатнай фотамадэллю на вашых старонках.

**– Самая запамінальная для вас падзея-2000?**

– Прыезд старэйшых дзяцей, якія працуюць у Расіі, у адпачынак. Сёлета гэта адбывалася аж тры разы.

**– Новы год сустрэнеце дома?**

– Усе 28 год, што жыву ў Маладзечне, сустракала з сям'ёй. Цяпер чакаем з мужам прыезду дачкі і сына, якія жывуць у Мінску.

**– Што пажадаеце на Новы год чытачам "РГ"?**

– Паболей аптымізму, здароўя, усмешак.

**– Можа, падкажаце, які будзе курс долара праз год?**

– Не, гэта немагчыма. Магу толькі сказаць, што ў гэтыя дні курс долара павінен стабілізавацца, бо людзі перад Новым годам выдаткоўваюць свае валютныя запасы. А што будзе пасля 13 студзеня, цяжка сказаць.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Пад Новы год Лідзія Краснова атрымала купюру ў 500 долараў. На жаль, крыху большую за звычайную.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 21 снежня | 28 снежня |
|---|---|---|
| Долар | 1176,00 руб. | 1180,00 руб. |
| Нямецкая марка | 538,96 руб. | 562,93 руб. |
| Літ | 294,08 руб. | 295,13 руб. |
| Расійскі рубель | 42,06 руб. | 41,97 руб. |
| Злоты | 274,19 руб. | 284,00 руб. |
| ЕЎРА | 1054,11 руб. | 1101,00 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1200 – 1220 руб. | 1230 – 1250 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 20.12 | 27.12 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1700 | 1700 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 5860 | 6805 |
| Сасіскі, 1 кг | 1850 | 1850 |
| Селядзец, 1 кг | 1100 | 1100 |
| Рыс, 1 кг | 410 | 410 |
| Грэчка, 1 кг | 470 | 480 |
| Цукар, 1 кг | 560 | 565 |
| Алей, 1 л | 670 | 670 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 650 | 650 |
| Маянэз, 200 г | 220 | 220 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1200 | 1200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 400 | 400 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 360 | 360 |
| Лімоны, 1 кг | 1230 | 1300 |
| Апельсіны, 1 кг | 750 | 945 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 120 | 180 |
| Капуста, 1 кг | 100 | 100 |
| Хурма, 1 кг | 800 | 850 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 800 | 800 |
| Масла, 1 кг | 1800 | 1800 |
| Тварог, 1 кг | 800 | 800 |
| Малако, 1,5 л | 350 | 350 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 800 | 900 |
| Бульба, вялікае вядро | 600 | 600 |
| Морква, 1 кг | 130 | 200 |
| Яблыкі, 1 кг | 350 | 350 |

■ ДНІ

**30 снежня** – у 1990 годзе пачала дзейнічаць другая лінія Мінскага метрапалітэна.

**31 снежня – 65 год з дня нараджэння (1935) К. Малышавай**, беларускай артысткі балета, народнай артысткі Беларусі.

**1 студзеня – 3 Новым годам!**

**1 студзеня – 140 год з дня нараджэння Я. Карскага** (1861–1931), філолага–славіста.

**1 студзеня 1956 г.** адбылася першая перадача Мінскага тэлецэнтра.

**1981 г.** – заснаванне рэспубліканскага выдавецтва "Юнацтва" у Мінску.

## Віно да Калядаў

МЯДЗЕЛ. Да Калядаў на Ілаўскім плодакансервавым заводзе выпусцілі новае віно – "Калядная ноч". Спачатку хацелі назваць яго проста "Каляднае", але такая назва была ўжо выкарыстаная нейкім заводам, даводзілася дадаць "...ноч". Віно гэтае палепшанай якасці, у аснове – сок яблычны і чарнаплодный рабіны.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## 29 снежня 2000 года – адзіны дзень бяспекі руху

**МАЛАДЗЕЧНА. Напярэдадні Новага года дзяржаўтаінспекцыя занепакоеная павелічэннем колькасці дарожна–транспартных здарэнняў. Толькі за 11 месяцаў на тэрыторыі Мінскай вобласці зарэгістравана 1143 здарэнні, 367 чалавек загінула, 1142 чалавекі атрымалі пашкоджанні рознай ступені цяжкасці, 137 ДТЗ здзейснілі п'яныя кіроўцы.**

На Маладзечаншчыне колькасць загінуўшых павялічылася на 12%. Напрыканцы снежня здзейснена 107 ДТЗ, 28 чалавек загінула, 97 атрымалі пашкоджанні, 8 ДТЗ з удзелам нецвярозых кіроўцаў.

**Па відах ДТЗ размеркаваліся наступным чынам:**

наезд на пешахода ... 457
наезд на перашкоду ... 134
перакульванне аўтамабіляў 245
сутыкненне ... 170
наезд на веласіпедыстаў ... 101
наезд на гужавы транспарт . 14

**Прычыны ДТЗ:**

без права кіравання транспартам ... 457
перавышэнне скораснага рэжыму ... 152
кіраванне транспартам у нецвярозым стане ... 137
парушэнне правілаў пешаходамі і веласіпедыстамі ... 293

Як паказвае аналіз, большасць здарэнняў адбываецца ў цёмны час.

**Падрыхтаваў Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ НАВАГОДНІЯ ПАРАДЫ

## Каб урачыстасць не азмрочылася «вогненнымі» здарэннямі

**Часта крыніцамі пажараў становяцца электрычныя прыборы, у тым ліку, самаробныя ўстройствы, што шырока выкарыстоўваюцца для ілюмінацыі, і электрагірлянды, якія працуюць у святочныя дні з павышанай нагрузкай.**

Часам вельмі сумна заканчваюцца дзіцячыя забавы з піратэхнічнымі сродкамі: хлапушкамі, феерверкамі, бенгальскімі агнямі, петардамі.

Каб свята не ператварылася ў бяду, прыслухайцеся да навагодніх парад работнікаў пажарнай службы.

**Інспектары Дзяржпажнагляду раяць:**

– елку ўстанавіце на ўстойлівай апоры і, пажадана, далей ад ацяпляльных сістэм і электрапрыбораў;

– для ілюмінацыі выкарыстоўвайце электрычныя гірлянды толькі прамысловага вырабу;

– не упрыгожвайце елку ватай, каляровай паперай, не замацоўвайце на ёй бенгальскія агні;

– ні ў якім выпадку не пакідайце ля навагодняй елкі дзяцей без нагляду дарослых.

Калі пажар адбыўся, тэрмінова паведаміце ў пажарную службу па тэлефоне "01", прыміце меры па выратаванні людзей, тушэнні пажару даступнымі сродкамі да прыбыцця пажарных падраздзяленняў і эвакуацыі маёмасці.

**Андрэй РАБЕЦ, інспектар Дзяржпажнагляду, Маладзечна.**

## Чым год запомніўся?

**Па традыцыі ў апошнім нумары адыходзячага года нагадваем чытачам пра некаторыя сёлетнія газетныя публікацыі. На гэты раз мы вырашылі расставіць іх па своеасаблівых намінацыях.**

■ ДАЛІКАТНАЯ СПРАВА ГОДА

### Маладзечну патрэбныя прыбіральні

МАЛАДЗЕЧНА. Калі кіравацца санітарнымі патрабаваннямі, стотысячны горад павінен мець больш за дзесятак грамадскіх прыбіральняў.

У горадзе адна грамадская камунальная прыбіральня: ля кінатэатра "Радзіма". Аднак і яна цяпер закрытая на рамонт. Дэфіцыт гэтых "устаноў" асабліва відаць у марозы на белым снезе.

**"РГ", №8, 25 лютага.**

■ «ПРЫКОЛ» ГОДА

### Рыхтуйце савецкія грошы

МАЛАДЗЕЧНА. Нацыянальны банк ЗША дамовіўся з Нацбанкам РБ аб пастаўцы ў Амерыку грошай савецкіх часоў.

Заўтра на рэчавым і калгасных рынках Маладзечна адкрыюцца абменныя пункты. Грошы яны будуць купляць па наступным курсе: 1 рубель СССР – 100 беларускіх рублёў. Можна іх будзе абмяняць і на долары ЗША, 1 долар – 10 савецкіх рублёў.

**"РГ", №13, 31 сакавіка.**

■ СУСТРЭЧЫ ГОДА

### У чацверты раз на месяцы вёскі Рыбчына сустрэліся землякі

ВІЛЕЙКА. На Сёмуху ля Вілейскага вадасховішча сабраліся былыя жыхары вёскі Рыбчына, якую перасялілі больш за 20 год таму.

Сёлета сабралася чалавек шэсцьдзесят. Па традыцыі, чакалі мясцовага бацюшку, айца Міхаіла, які чытаў малітву і памінаў памерлых за мінулы год рыбчынцаў.

Затым рыбчынцы займаліся зусім звецкай справай – адзначалі сустрэчу.

**"РГ", №25, 23 чэрвеня.**

**Падрыхтаваў Юрый Карпіцкі.**

# КАЛЯНДАР 2001 года

Рэгіянальная газета
Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.
E-mail: region_news@irex.minsk.by




## СТУДЗЕНЬ

ЯНВАРЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| А | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| П | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

## ЛЮТЫ

ФЕВРАЛЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

## САКАВІК

МАРТ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

## КРАСАВІК

АПРЕЛЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

## ДНІ АФІЦЫЙНЫХ СВЯТАЎ

**1 студзеня** – Новы год;
**7 студзеня** – праваслаўныя Каляды;
**8 сакавіка** – Дзень жанчын;
**24 красавіка** – Радаўніца;
**1 мая** – Свята працы;
**9 мая** – Дзень Перамогі;
**3 ліпеня** – Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь;
**7 лістапада** – Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі;
**25 снежня** – каталіцкія Каляды

## МАЙ

МАЙ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| А | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Н | 6 | 13 | 20 | 27 | |

## ЧЭРВЕНЬ

ИЮНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| А | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| С | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ч | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Н | 3 | 10 | 17 | 24 | |

## ЛІПЕНЬ

ИЮЛЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

## ЖНІВЕНЬ

АВГУСТ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

## ВЕРАСЕНЬ

СЕНТЯБРЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

## КАСТРЫЧНІК

ОКТЯБРЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| А | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| П | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

## ЛІСТАПАД

НОЯБРЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

## СНЕЖАНЬ

ДЕКАБРЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

